ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 68 (1705) | Пятніца, 24 жніўня 1962 года | Цана 4 кап



## ХРОНІКА ГІСТОРЫІ КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

Першы том хронікі важнейшых падзей гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі выпусціла Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Работа падрыхтавана Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ — філіялам Інстытута марксізма-ленінізма пры ЦК КПСС.

Кніга складаецца з пяці раздзелаў. Першы з іх ахоплівае перыяд з 1883 па 1904 гады. У ім адлюстраваны акалічнасці ўзнікнення нелегальных гурткоў і распаўсюджання марксізма ў Беларусі, паяўленне пад уплывам пецярбургскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа» першых сацыял-дэмакратычных арганізацый. Прыводзяцца фактычныя дадзеныя аб Першым з'ездзе РСДРП, які адбыўся ў сакавіку 1898 года ў Мінску.

Другі раздзел хронікі прысвечаны дзейнасці бальшавікоў Беларусі ў перыяд першай рускай рэвалюцыі, трэці — падзеям з другой палавіны 1907 года да Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1917 года. Чацвёрты раздзел выкладае матэрыялы, якія ахопліваюць перыяд з лета 1917 года па 1918 год.

Апошні раздзел першага тома прысвечан барацьбе працоўных Беларусі супраць нямецкай акупацыі 1918 года, утварэнню КПБ. Вялікую цікавасць маюць змешчаныя ў гэтым раздзеле дадзеныя аб пісьмах працоўных да заснавальніка і правадыра Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы Ул. І. Леніна.

У інстытуце вядзецца работа па падрыхтоўцы другога тома хронікі важнейшых падзей гісторыі КПБ.

(БЕЛТА).

## СВЯТА БАЛЕТНАЙ МОЛАДЗІ

У сталіцы Латвіі — Рызе адбылося свята балета моладзі. Праведзенае ўпершыню ў гонар 20-годдзя Савецкай Латвіі, яно стала цяпер традыцыйным, з кожным годам у ім удзельнічае ўсё больш выканаўцаў.

У гэтым годзе ў Рыгу з'ехаліся артысты з тэатраў Масквы, Ленінграда, Мінска, Кіева, Тбілісі, Таліна, Вільнюса. Канцэрты творчай моладзі ў латвійскай сталіцы і гарадах Вентспілс, Талсі, Салдус, выліліся ў сапраўдны агляд балетнага мастацтва, на якім пабывала звыш 20 тысяч гледачоў. У цікавай і разнастайнай праграме канцэртаў былі шырока прадстаўлены класічныя і характарныя танцы, урыўкі з нацыянальных балетаў, арыгінальныя, спецыяльна падрыхтаваныя да свята нумары.

Харэаграфічнае мастацтва Беларусі было прадстаўлена маладымі салістамі балета М. Пятровай, І. Лабачовай і Г. Паповым. У іх рэпертуар уваходзілі адажыо з балета «Спячая прыгажуня», вальс Машкоўскага і полька Штрауса.

Гэта свята з'явілася вялікай творчай школай для маладых артыстаў. Тут яны мелі магчымасць абмяняцца творчым вопытам, убачыць лепшыя мастацкія нумары, пастаўленыя рознымі балетмайстрамі краіны, пазнаёміцца з характэрнымі рысамі выканання нацыянальных танцаў. А галоўнае — каштоўная традыцыя Рыжскага тэатра па арганізацыі своеасаблівага агляду маладых выканаўцаў вельмі спадабалася ўсім яго ўдзельнікам і паспрыяла ўмацаванню дружбы паміж прадстаўнікамі нацыянальных культур нашай Радзімы.

Добра было б, каб кіраўніцтва Беларускага тэатра оперы і балета і камітэт камсамола пераймалі вопыт рыжан і арганізавалі ў Мінску падобны шырокі агляд балетнай моладзі з удзелам лепшых артыстаў Масквы, Ленінграда і саюзных рэспублік. Гэта прынясе карысць калектыву беларускай балетнай трупы, творча ўзбагаціць яе і выкліча несумненную цікавасць мінскіх гледачоў.

**А. КАЛЯДЭНКА.**

## У ГОРАДЗЕ МАТРОСКАЙ СЛАВЫ

У Севастопалі адбыліся канцэрты Беларускага дзяржаўнага ансамбля танца. Севастопальцы з вялікай цікавасцю прагледзелі праграму, складзеную з беларускіх, рускіх, украінскіх, малдаўскіх старадаўніх і сучасных танцаў. На адным з канцэртаў прысутнічалі інданезійскія маракі, якія госцяць у Севастопалі.

Выступленні беларускіх танцораў з поспехам адбыліся таксама ў Сімферопалі і Сочы.

# ДОМ НА ПРАДОЎЖНАЙ І ЛЕКЦЫІ НЕ ПА АДРАСУ...

**В. ШАЦІЛА,**
спец. карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва»

АДНА з вуліц ускраіны Гомеля — Прадоўжная. Сярод многіх дамоў — адзін, які звонку адрозніваецца ад астатніх хіба толькі вялізнай лужынай перад уваходам у двор. Але прыслухайцеся — што за гучнае харавое спяванне чуваць з акон? Можа, гаспадар дома сабраў гасцей? Ды нешта ж спяваюць манатонна, аднастайна... Моляцца?

Так, моляцца. Тут на Прадоўжнай — малітоўны дом гомельскай секты евангельскіх хрысціян-баптыстаў.

Людзі сядзяць на лаўках, шчыльна прыціснуўшыся адзін да аднаго, тоўпяцца ў дзвярах, на двары. З кожнай хвілінай усё больш і больш яны «аддаляюцца ад усяго зямнога». Вось непадалёк ад мяне дзяўчына ў карычневай сукенцы, з капронавай касынкай на галаве. Ёй не больш дваццаці гадоў, яна стройная, як маладое дрэўца. Здавалася б, каму як не ёй, любіць жыццё і ўсе яго радасці. Але яна моліцца і яе карыя, шырока расплюшчаныя, узнятыя да столі вочы застылі... Вось панура сціснуўся ў кутку і штосьці мармыча хлопец у спартыўнай куртцы, каржакаваты і дужы... Вось на каленях два чыгуначнікі сярэдніх год... Вось поўная жанчына, крыклівa апранутая, учапілася ў лаўку так, што пабялелі пальцы...

Жахлівая, прыгнятальная абстаноўка... Хочацца закрычаць: «Што вы робіце, апамятайцеся!..»

ГОМЕЛЬСКАЯ секта евангельскіх хрысціян-баптыстаў — самая вялікая ў Беларусі, тут да 450 веруючых. За апошнія гады секта вырасла ў паўтара раза, прычым рост працягваецца. Чакаюць хрышчэння яшчэ 32 чалавекі, 17 з іх—маладыя.

А ці ёсць выпадкі, каб нехта выйшаў з секты? Ёсць. Адзін выпадак!

Можа, сектанцтва ўцягвае ў свае рады толькі веруючых? Можа, змяншаецца колькасць наведвальнікаў праваслаўнай царквы?

Знаёмімся з лічбамі. Яны не вельмі суцяшальныя. Калі ўзяць афіцыйныя дадзеныя ЗАГСа аб нараджэннях і параўнаць іх з дадзенымі аб хрышчэнні дзяцей ў цэрквах, дык выявіцца, што ў Гомельскай благачыніі (у межах былой Гомельскай вобласці), за 1960 год было ахрышчана 33,5 працэнта ўсіх дзяцей, а ў 1961 годзе—35,4 працэнта. У Мазырскай благачыніі (у межах былой Палескай вобласці) на працягу мінулага года ахрышчана 28,3 працэнта.

А вось лічбы пахаванняў. У 1961 годзе ў Рэчыцы з кожных трох нябожчыкаў па царкоўнаму абраду пахаваны два. У Мазыры пахавана такім жа чынам 95,7 працэнта нябожчыкаў.

Яшчэ адна галіна прыбытку цэркваў — вянчанне. У той жа Рэчыцы летась кожная дваццатая пара маладажонаў вянчалася ў царкве, у Церахоўскім раёне—кожная дзесятая.

Над гэтымі лічбамі варта задумацца.

ЦІКАЎЛЮСЯ, як праводзіцца ў вобласці антырэлігійная прапаганда.

У Гомельскім абласным аддзяленні Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў мне паказалі справаздачу аб лекцыях, прачытаных на працягу першага паўгоддзя 1962 года. Выглядае зводка вельмі паважна. З 30 тысяч лекцый каля дзвюх тысяч—на атэістычныя тэмы. У Гомелі адбылося іх 212, у Жыткавіцкім раёне—169, у Буда-Кашалёўскім—160, Жлобінскім—45, Чачэрскім—24 і г. д. Паглядзеў я і зводны план аддзела прапаганды і агітацыі Гомельскага гаркома партыі. У плане ўказана, што кожныя два-тры дні ў горадзе чытаецца лекцыя па атэістычных пытаннях...

Разам з лектарам таварыства тав. Куцекам ідзём на вагонарамонтны завод. Тав. Куцека павінен тут выступаць ў адным з цэхаў з лекцыяй «Навука і рэлігія» — так напісана ў пуцёўцы. На справе выяўляецца, што тэма лекцыі крыху іншая—«Паходжанне і класавая сутнасць хрысціянства».

...Абедзенны перапынак. Адны з рабочых ідуць у сталоўку, другія, наспех перакусіўшы тут жа ў цэху, гуляюць у валейбол. Так мінае паўгадзіны. Нарэшце, з яўнай неахвотай людзі садзяцца. Даведаўшыся аб тэме лекцыі, многія паціскаюць плячыма:

— А навошта яна нам? Сярод нас жа веруючых няма. Чыталі б такую лекцыю там, дзе яны ёсць...

І сапраўды. На заводзе ў асноўным моладзь, што скончыла нядаўна школу, камсамольцы, перадавікі вытворчасці, актыўныя ўдзельнікі грамадскага жыцця. А іх сабралі і даводзяць ім, што бога няма... У кожнага з рабочых адабралі паўгадзіны адпачынку, дзяржава панесла матэрыяльную страту (лектару ж трэба плаціць!), на адну прачытаную лекцыю ў справаздачы таварыства стала больш. А пра тое, ці прынесла лекцыя якую-небудзь карысць, ніхто не падумаў.

Мне давялося быць і на іншых лекцыях. Усе яны, без выключэння, чыталіся для няверуючых. Карысць ад гэтых выступленняў, зразумела, была такая ж, як ад лекцыі тав. Куцекі.

Безумоўна, было б няправільна сцвярджаць, што чытаць лекцыі на атэістычныя тэмы для няверуючых зусім не трэба. Бываюць жа выпадкі, калі пагаршэнне атэістычнай прапаганды ў калектывах вядзе да ўзнікнення новых ачагоў веруючых. Такая, я б сказаў, прафілактычная работа патрэбна. Толькі,як правіла, больш за ўсё веруючых сярод хатніх гаспадынь, сярод, так сказаць, неарганізаванага насельніцтва. Вось дзе і трэба чытаць лекцыі на атэістычныя тэмы. Тут асаблівую ролю змаглі б адыграць агітпункты і чырвоныя куткі домакіраўніцтваў.

Але зноў паглядзім лічбы. У першым квартале сёлетняга года ў Гомелі было прачытана больш 30 лекцый па атэізму і за ўвесь гэты час на агітпунктах было праведзена толькі два ці тры вечары пытанняў і адказаў на атэістычныя тэмы. А ў гэты час ішла падрыхтоўка да выбараў у Вярхоўны Савет СССР, агітпункты працавалі на поўную сілу, насельніцтва ахоплівалася найбольшай колькасцю лекцый і дакладаў. У другім квартале сёлетняга года на прадпрыемствах і ва ўстановах лекцый на антырэлігійныя тэмы было прачытана прыкладна ў два разы больш, а для «неарганізаванага» насельніцтва — толькі адна.

Закрыўшы летась сабор, кіраўнікі горада арганізавалі там планетарый. Вельмі добрае мерапрыемства. Толькі наведваюць планетарый галоўным чынам школьнікі. А наведвальнікаў стала б куды больш, калі б пра планетарый напаміналі сваім слухачам лектары і агітатары, калі б лепей была наладжана рэклама. Пакуль што толькі ля ўваходу ў гарадскі парк, дзе размешчаны планетарый, ёсць рэкламны шчыт. Дырэкцыя планетарыя звярталася ў Мінск, у праўленне Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў з просьбай выдзеліць 300 рублёў на ўстаноўку такіх шчытоў паўсюды. Але ў просьбе адмовілі.

КАРЫСЦЬ ад любой лекцыі будзе тады, калі яна канкрэтная, мэтанакіраваная. У плане Гомельскага аддзялення Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў значыцца 58 тэм па атэізму. Але сярод іх наўрад ці набярэцца і дзесятак, што былі б прысвечаны баптыстам, стараабрадцам, пяцідзесятнікам, якіх у Гомелі таксама хапае. У плане галоўным чынам тэмы «ўвогуле» — марксізм-ленінізм аб рэлігіі, класавая сутнасць рэлігіі, паходжанне і класавая сутнасць хрысціянства і г. д. Лекцыі і чытаюцца «ўвогуле», як чыталася лекцыя тав. Куцекі — крыху аб паходжанні рэлігіі, крыху пра Бруно і Каперніка, крыху аб праваслаўнай рэлігіі і сектантах. А прынцып «усяго патроху» добры хіба толькі для прыгатавання халадніку на абед, але не для сур'ёзнай лекцыі на антырэлігійную тэму.

Любы сектант ведае біблію і іншыя «свяшчэнныя» кнігі амаль напамяць. У спрэчцы ён сыпле цытатамі, на ўсё ў яго гатовы адказ. Той, хто займаецца прапагандай атэізму, павінен ведаць гэтыя кнігі не горш, а нават лепш, чым любы прапаведнік ці свяшчэннік. Бо як можна весці барацьбу, калі не ведаеш свайго праціўніка! І «Ветхі завет», і «Новы завет» поўныя абуральных супярэчнасцей, трэба толькі ўмець іх скарыстаць. Але ў Гомелі толькі два ці тры спецыялісты па атэізму ў нейкай ступені знаёмы са «свяшчэннымі» кнігамі.

Пытаўся я таксама ў гэтых спецыялістаў, ці бываюць яны ў цэрквах або малітоўных дамах баптыстаў.

— Ну, што вы! — сумеўся адзін з іх. — Гэта ж калі я пайду, людзі падумаюць, што я таксама веруючы!

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## ВЫСТАЎКА-КОНКУРС НА ЛЕПШЫ БУКЕТ

На працягу двух дзён у Гомельскім Палацы культуры чыгуначнікаў імя Ул. І. Леніна праходзіла выстаўка-конкурс на лепшы букет кветак. На конкурс было прадстаўлена каля 300 букетаў.

Журы конкурсу падвяло вынікі выстаўкі. Дыплом першай ступені і першая прэмія прысуджаны Гомельскаму трэсту зеленгаса. Кветкаводы абласной станцыі юннатаў і Мазырскі зеленгас удастоены дыплома другой ступені. Кветкаводам парку культуры і адпачынку, завода «Гомсельмаш» і сярэдняй школы № 33 уручаны дыпломы трэцяй ступені.

У індывідуальным спаборніцтве першынство заваяваў кветкавод-аматар тав. Шэлехаў. Яму ўручаны дыплом першай ступені за букет «Свабодная Афрыка».

За букет «Свабодная Куба» кветкаводу-аматару тав. Патапаву прысуджаны дыплом другой ступені.

**З. ІВАНОЎ.**



Культурна арганізаван гандаль кнігамі ў Талачынскім раённым універмагу Віцебскай вобласці. У кніжным аддзеле, які спаборнічае за званне калектыву камуністычнай працы, заўсёды вялікі выбар палітычнай, мастацкай і тэхнічнай літаратуры на рускай і беларускай мовах.

Тут ёсць вітрыны з навінкамі літаратуры. Аддзел арганізаваў 18 кіёскаў на прадпрыемствах і ў калгасах раёна. Працуюць 24 кнігаашы, якія паспяхова распаўсюджваюць літаратуру сярод насельніцтва.

На здымку вы бачыце гэтых энтузіястаў кніжнага гандлю. Вось (злева направа) загадчыца бібліятэкі станцыі Талачын Жана Стальмахова, загадчыца аддзела Марыя Ткачэнка і кнігаоша брыгадзір брыгады камуністычнай працы тэкстыльнай фабрыкі Ліна Шэвелева. Яны падбіраюць літаратуру для распаўсюджання.

Фота М. МІНКОВІЧА.

## ПАДАРУНКІ КАСМАНАЎТАМ

Калектыў Навагрудскага шклозавода «Нёман» вырашыў адзначыць знамянальную падзею ў гісторыі Савецкай радзімы — групавы палёт касманаўтаў Андрыяна Нікалаева і Паўла Паповіча.

Калі ў Маскве на Краснай плошчы сустракалі ўдзельнікаў бяспрыкладнага палёту, на заводзе пачалі рыхтаваць імянныя кветкавыя вазы ў падарунак Андрыяну Нікалаеву і Паўлу Паповічу. Лепшыя спецыялісты выгравіруюць на вазах даты пачатку і заканчэння гістарычнага рэйса касмічных караблёў.

20 жніўня ў вытворчасць запушчаны сувенірныя кветкавыя вазачкі з двухслойнага шкла з партрэтамі герояў космасу. Іх выпусцяць каля 5 тысяч штук. Гэтым завод працягвае традыцыю — адзначаць палёты ў космасе выпускам сваёй прадукцыі. Раней такія вырабы выпускаліся ў гонар палётаў Юрыя Гагарына і Германа Цітова.

**Незабыўны 1812-ы**

# ПАНАРАМА ЛЕГЕНДАРНАЙ БІТВЫ

Ёсць у гісторыі падзеі, над якімі час няўладны. Мінаюць дзесяцігоддзі, стагоддзі, а слава іх не гасне. Хутка 150 год Айчыннай вайны 1812 года, але неўміручы подзвіг народа, які разграміў напалеонаўскую армію, і па сённяшні дзень здзіўляе людзей.

Нашчадкі свята захоўваюць усё, што звязана з гераікаю тых далёкіх дзён. У Маскве нямала месцаў, якія нагадваюць аб легендарным мінулым. У гэтыя месцы прыходзяць людзі, і слава Радзімы паўстае перад імі, ажываючы ў рэліквіях, што дайшлі да нас.

Вось Кутузаўскі праспект сталіцы. Сярод светлых шматпавярховых дамоў, у духмяных зарасніках жоўтай акацыі невялікі драўляны дамок. Гэтае месца — святое для кожнага савецкага чалавека.

Тут першага верасня 1812 года адбываўся славуты савет у Філях. Непадалёку ад доміка — абеліск з шэрага каменю. Чытаем надпіс на мармуровай дошцы: «На месцы гэтым знаходзілася хата, якая належала селяніну вёскі Філі Фралову, дзе 1-га верасня 1812 года быў склікaны Ваенны Савет пад старшынствам фельдмаршала князя Кутузава, які вырашыў лёс Масквы і выратавання Расіі...»

Хата селяніна Фралова згарэла ў 1868 годзе. Але ў 1887 годзе на сродкі, сабраныя жыхарамі Масквы, быў пабудаваны новы дамок, такі ж самы, як той, што згарэў.

У адным з пакояў кутузаўскай хаты ўзноўлена абстаноўка, у якой адбывалася пасяджэнне савета. «Са стратай Масквы, — сказаў на гэтым пасяджэнні Кутузаў, — не страчана Расія... Найпершым абавязкам пастанаўляю захаваць армію... Загадваю адступаць».

Руская армія без бою пакінула Маскву, каб, сабраўшы сілы, канчаткова знішчыць знясіленага непрыяцеля.

Гэтая простая вясковая хата захоўвае рэчы вялікага палкаводца, прадметы, якімі ён карыстаўся, зброю, сцягі рускіх палкоў, трафейную французскую гармату, абмундзіраванне салдат і афіцэраў рускай арміі. На сценах — партрэты ўдзельнікаў партызанскай вайны 1812 года. Кожны, хто прыходзіць сюды, аддае даніну глыбокай павагі, гарачай удзячнасці тым салдатам і афіцэрам, партызанам, якія выстаялі ў жорсткіх крывавых баях з напалеонаўскімі войскамі.

Зусім побач з кутузаўскай хатай, непадалёку ад Паклоннай гары, вырастае цяпер незвычайны будынак — круглы, мураваны, без вокнаў. У дзень святкавання 150-годдзя Барадзінскага змагання, 7 верасня, тут адкрыецца панарама «Барадзінская бітва». Гэты унікальны помнік мастацтва гераізму нашага народа ў барацьбе з напалеонаўскімі захопнікамі належыць выдатнаму рускаму мастаку-баталісту Францу Аляксеевічу Рубо, аўтару славутай Севастопальскай панарамы.

Нямногія старажылы-масквічы ўспомняць цяпер барак на Чыстых Прудах, дзе на вельмі кароткі час у 1912 годзе, да стагоддзя з дня бітвы пад Барадзіно, была выстаўлена для агляду панарама легендарнай бітвы.

Мастак разгарнуў на вялізным палатне шырокую карціну бою, вылучыўшы ў ёй галоўныя, найбольш яркія эпізоды. Потым панараму перавезлі ў Пецярбург. У час пажару палатно сур'ёзна пацярпела і з таго часу гледачы яго больш не бачылі. Ад карціны Рубо да нас многае не дайшло. Не было цэлых кавалкаў карціны, многія яе часткі пацярпелі ў часе перавозак з аднаго сховішча ў другое.

Над аднаўленнем загінуўшых жывапісных кавалкаў панарамы працавала група савецкіх мастакоў-баталістаў на чале з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Іванам Васільевічам Еўсцігнеевым. Перад мастакамі стаяла складаная і непамерна цяжкая задача. Трэба было нанава напісаць неба, частку батальнага жывапісу, прадметны план. Мастакам давялося вывучыць вялікую колькасць дакументаў, вырашыць чыста тэхнічныя праблемы, перш чым прыступіць да рэстаўрацыі карціны Рубо.

Савецкія мастакі рупліва аднаўлялі дэталі страчаных частак, захоўваючы стыль і манеру выдатнага баталіста. Разам з тым, следуючы гістарычнай дакладнасці, мастакі ўнеслі ў панараму асобныя змены. Ствараючы сваю кампазіцыю, Рубо меў на ўвазе ўвесці ў яе героя гістарычнай бітвы генерала Баграціёна, смяротна параненага. Але прадстаўнікі генеральнага штаба царскай арміі не дазволілі мастаку зрабіць гэта. Цяпер вобраз Баграціёна заняў сваё месца ў панараме.

Памеры панарамы Рубо зусім незвычайныя. Вышыня яе жывапіснай часткі складае 14 метраў, а даўжыня па кругу — 115 метраў.

Памяшканне, дзе размесціцца панарама, таксама стане адным з унікальнейшых твораў савецкай архітэктуры. Гэта будзе манументальны будынак у выглядзе цыліндра вышынёю ў 30 метраў, з бакавымі крыламі, абліцаваны шклом, мармурам і керамікай.

Асноўная частка будынка, цэнтральная зала і аддаецца панараме. Прыйшоўшы на глядзельную пляцоўку гэтай залы, глядач нібы пабывае ў Сямёнаўскай Слабадзе, дзе ў дзень бітвы размяшчаўся назіральны пункт рускай арміі. Штучнае асвятленне, якое імітуе сонечнае святло, макеты ўмацаванняў, натуральныя гарматы, ядры, устаноўленыя перад панарамай, створаць ілюзію ўдзелу гледача ў адлюстроўваемых на палатне падзеях.

У бакавых крылах будынка размесцяцца залы, экспазіцыя якіх пакажа ход вайны з напалеонаўскай арміяй перад Барадзінскай бітвай, выгнанне ворага з межаў нашай Радзімы, вялікі подзвіг народаў, якія адстаялі ў няроўнай барацьбе сваю свабоду і незалежнасць.

Да юбілейных барадзінскіх дзён у Маскве мяркуецца адкрыццё помніка М. І. Кутузаву. Помнік узвышаецца ў тым месцы, дзе Кутузаўскі праспект зліваецца з Вялікай Дарагамілаўскай вуліцай. Гэтая манументальная кампазіцыя будуецца на земляным кургане на гранітным пастаменце. Ад «кутузаўскага» кургана раскінецца адзін з найпрыгажэйшых сквераў сталіцы.

Адсюль, ад манумента аднаму з вялікіх сыноў нашага народа, позірку адкрываецца пераўтвораная Масква.

**Г. БАКШЭЕВА,**
спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».



Помнік рускай славы 1812 года ў Кобрыне.

Мал. С. РАМАНАВА.



Вось яна, рака Беразіна, каля вёскі Студзёнка пад Барысавам, дзе 150 год назад знайшлі свой апошні прытулак напалеонаўскія гора-заваёўнікі...

Фота Ул. ЛУПЕЙКІ. (БЕЛТА).

## РЭЛІКВІІ ВЯЛІКАЙ ПЕРАМОГІ

Арганізацыйная група Беларускага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея сабрала шматлікія матэрыялы пра слаўныя справы нашых продкаў, якія ў 1812 годзе ва ўпартых баях адстаялі свабоду і незалежнасць Радзімы.

Вось перад намі ядры, асколкі гранат, карцеч, знойдзеныя пад Гарадзечна, на поўнач ад Кобрына, дзе ўлетку 1812 г. адбылася жорсткая бітва з войскамі інтэрвентаў. Не менш цікавыя гравюры і карціны, што адлюстроўваюць першыя рускія перамогі пад Мірам, Астроўнай, Клясціцамі.

Асабліва шмат матэрыялаў пра бітву пад Барадзіно. Ядры, ружэйныя кулі, карцеч, асколкі гранат, знойдзеныя на Барадзінскім полі, рэпрадукцыі карцін, арыгінальныя гравюры, схемы Барадзінскай бітвы дазваляюць амаль ва ўсіх дэталях уявіць грандыёзнасць гэтай падзеі. Фотакопіі архіўных дакументаў характарызуюць палкаводчае майстэрства М. І. Кутузава, раскрываюць веліч подзвігаў герояў народнай вайны.

Значнае месца займаюць матэрыялы, звязаныя з падзеямі на рацэ Беразіне. Тут восенню 1812 года, пад Студзёнкаю, адступаючаму ворагу быў нанесены сакрушальны ўдар. Толькі адасобленыя рэшткі былой вялікай арміі Напалеона здолелі пераправіцца і ўнікнуць пагібелі.

Пры абследаванні месца пераправы французаў пад Студзёнкаю былі знойдзены французскія манеты пачатку XIX стагоддзя, ядры, кулі, цуглі, частка сядла, гузікі ад шынялёў і мундзіраў французскіх салдат і афіцэраў.

У фондах захоўваецца адзенне, амуніцыя і зброя рускіх войск перыяду Айчыннай вайны. Асабліва вялікую каштоўнасць мае ўдарна-прамянёвы пісталет узору 1809 г., зроблены на Тульскім аружэйным заводзе, які быў галоўным пастаўшчыком зброі для рускай арміі ў 1812 г. Выклікаюць цікавасць узнагародныя і мемарыяльныя медалі, прысвечаныя 1812 г.

Нядаўна арганізацыйная група адкрыла выстаўку, прысвечаную 150-годдзю вайны 1812 г. Дакументы і выяўленчыя матэрыялы, прадстаўленыя ў экспазіцыі, уваскрашаюць перад намі падзеі далёкага мінулага — гераічныя старонкі летапісу славы рускай зброі.

**Л. КЛОК.**

